Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

№2(614) 12 студзеня 2012 года.

Кошт свабодны.




Калядаванне, якое арганізаваў мастак Алесь Пушкін у в. Бобр 7 студзеня 2012 года.
Photo ByMedia.net

Віцебская вобласць

# Прыкмета святаў – нож?

■ Станіслаў Раманчук

**У адрозненне ад еўрапейцаў, большасць суайчыннікаў адзначаюць светлыя і радасныя навагоднія святы ў сябе дома.**

У гэты час хапае працы міліцыі з-за пачасціўшыхся сямейных скандалаў, калі спіртнога выпіваецца залішне. А вось 21-гадовая жыхарка Докшыц нават і не дачакалася надыходу 2012 года. У той святочны вечар паміж ёй і 30-гадовым сужыцелем успыхнула бурная спрэчка. Высвятленне адносін завяршылася тым, што дама схапілася за нож і нанесла некалькі ўдараў у шыю і ў вобласць грудной клеткі. На шчасце мужчына выжыў, а вось затрыманай міліцыяй праваапарушальніцы прыйдзецца адказваць у судзе за такую агрэсію. Па аналагічнай схеме развіваліся адносіны і ў адной з вёсак суседняга Пастаўскага раёна, адкуль таксама даставілі ў райбальніцу ў навагоднюю ноч параненага мужчыну з Астравецкага раёна Гродзеншчыны. Медыкам прыйшлося гэтага небараку тэрмінова прааперыраваць, каб выратаваць яму жыццё. Але не заўсёды такія скандалы заканчваюцца толькі раненнямі. У Чашніцкім раёне страсці так раскаліліся, што 49-гадовы муж забіў нажом на навагоднія свята сваю жонку, маладзейшую на 3 гады, пасля сумеснага ўжывання спіртных напояў. Другое па ліку падобнае забойства на святы было зафіксавана ў Оршы. Там спачатку радаваліся святу 60-гадовы пенсіянер і яго больш малады госць. Аднак зноў жа, калі добра захмялелі, сталі сварыцца і гаспадар кватэры некалькі разоў ударыў нажом 33-гадовага земляка. Пакуль пацярпелага везлі ў бальніцу, ён аддаў Богу душу.



Пастаўскі раён

# Дапамагаюць найноўшыя тэхналогіі

■ Чэслаў Якубовіч

**Для беларускай эканомікі і асабліва для айчыннага бізнесу мінулы год прынёс нямала цяжкасцей і ўзрушэнняў.**

А вось для буйнейшага прамысловага прадпрыемства рэгіёна – прыватнага "Пастаўскага мэблевага цэнтра" летась быццам і не існавала такіх праблем, паколькі тут прынялі на работу яшчэ больш 150 чалавек. На тэхпераасначэнне і абнаўленне асноўнай вытворчасці было патрачана амаль 4 млн. зробленых еўра ад продажу за мяжу дзвярных і аконных блокаў. У выніку летась запрацаваў сучасны цэх па вырабу і па афарбоўцы прадукцыі з каштоўных парод драўніны – дубу і вольхі. Геаграфія замежных паставак ПМЦ пашырылася арабскімі дзяржавамі і дасягнула 85 % ад агульнага аб'ёму вытворчасці. Аднак у тым і сіла мэблевага цэнтра, што тут на дасягнутым не спыняюцца і пастаянна працуюць на перспектыву. У студзені гэтага года на прадпрыемстве адкрыецца яшчэ адзін суперсучасны лесапільны завод па тэхналогіі італьянскай фірмы "Primultini". Для забеспячэння патрэб вытворчасці раней закупілі найноўшае шведскае абсталяванне для забеспячэння саманарыхтовак лесу і дастаўкі драўніны з лясных дзялянак. Дарэчы, даўно на ПМЦ вытворчасць – поўнасцю безадходная, штодзень на ім вырабляюць больш тысячы натуральных дзвярэй, запатрабаваных у Еўрасаюзе, Расіі, іншых краінах СНД, у Ізраілі, у дзяржавах Азіі.

Пастаўскі раён

# Стрэлы каля крамы

■ Кастусь Александровіч

**Па меры ўзмацнення эканамічных цяжкасцей стаў паўсюдна назірацца рост крадзяжоў маёмасці.**

А ў аддаленай вёсцы Заўлічча Пастаўскага раёна, што непадалёку ад мяжы з суседнімі Докшыцкім і Глыбоцкім раёнамі, у адну з зімовых начэй была зафіксавана няўдалая спроба рабавання сельскага магазіна. Пасля апоўначы, калі вяскоўцы спалі, сюды на аўтамабілі прыехалі злачынцы. З дапамогай свайго аўто яны хутка вырвалі ахоўную металічную рашотку з аднаго акна крамы і пранміклі ўнутр. Але не ўлічылі няпрошаныя "гастралёры", што гэты магазін быў абсталяваны і сучаснай GSM-сігналізацыяй. Сігнал аб пранікненні ў магазін адразу паступіў на мабільны тэлефон загадчыцы крамы, якая аказалася смелай жанчынай. Не чакаючы прыбыцця міліцыі, яна з мужам на сваім аўтамабілі пад'ехалі да месца здарэння і фарамі асляпілі злодзеяў, якія ўжо заняліся пагрузкай скрадзенага. Злачынцы палічылі за лепшае адразу пакінуць месца сваёй няўдалай "экспрапрыяцыі". Праўда, каб іх не сталі праследваць, яны стрэлілі, як высветлілася потым, з траўматычнага пісталета і ўцяклі пасярод ночы. Ці тое супадзенне, ці проста збег абставін, але ў тую ноч на Віцебшчыне былі абрабаваны дзве вясковыя крамы ў іншых раёнах. А вось у Верхнядзвінскім раёне начны злодзей нядоўга радаваўся, што змог скрасці з магазіна гарэлкі і закускі на 2,3 млн. рублёў. Яго таксама выявіла сістэма GSM-сігналізацыі, а потым справай тэхнікі міліцыі было знайсці і затрымаць 35-гадовага злодзея, мясцовага жыхара.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 12.01.12 | | | | Пятніца 13.01.12 | | | | Субота 14.01.12 | | | | Нядзеля 15.01.12 | | | | Пнд. 16.01.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | 0 | -2 | +1 | +4 | +4 | 0 | 0 | -1 | -1 | -2 | -2 | -2 | -2 | -2 | -2 | -4 | -6 | -7 | -6 |
| Ціск | 743 | 743 | 738 | 729 | 724 | 724 | 727 | 728 | 729 | 728 | 729 | 731 | 735 | 739 | 743 | 746 | 748 | 750 | 751 |
| Вільготнасць | 83 | 80 | 90 | 87 | 85 | 82 | 76 | 72 | 79 | 85 | 85 | 88 | 88 | 84 | 85 | 86 | 86 | 82 | 76 |
| Вецер м/сек | С-З 6 | З 3 | Ю-З 7 | Ю-З 8 | Ю-З 9 | З 7 | З 8 | З 5 | З 5 | З 3 | З 4 | С-З 4 | С 5 | С 5 | С 5 | С 5 | С 4 | С-В 4 | С 4 |
| | | 09:28 | 17:06 | | | 09:27 | 17:07 | | | 09:26 | 17:09 | | | 09:25 | 17:11 | | 09:24 | 17:13 | |

# Лічба нумара

**32,5%**

- на столькі ў Беларусі, як вядома, з 1 студзеня гэтага года павысілася тарыфная стаўка першага разраду і дасягнула 200 тысяч рублёў. Для работнікаў бюджэтнай сферы і прыраўнаваных да іх пастановай урада ўведзены карэктуючыя каэфіцыенты да тарыфных ставак і акладаў у памерах 3,72 – 0,92. Па разліках спецыялістаў, гэта дае магчымасць дзяржаве крыху падняць узровень зарплаты работнікаў бюджэтных арганізацый, па-сутнасці самай малааплатнай катэгорыі грамадства, у сярэднім на 19,4 %.

Таксама ў пачатку студзеня вырашана павысіць узровень мінімальнай аплаты працы, і цяпер фактычна ўсе працуючыя беларусы могуць лічыць сябе мільянерамі, а студэнты радавацца, што іх стыпендыі з новага года выраслі амаль на 20 %. Аднак, каб іх атрымліваць, юнакам і дзяўчатам трэба вучыцца лепей і мець сярэдні бал паспяховасці пры здачы сесіі ад 6,0 балаў і вышэй (дагэтуль давалі стыпендыю "гуманітарыям" і пры 5,5, а на тэхнічных спецыяльнасцях – ад 5,0 бала). У пачатку 2012 года таксама штомесячны мінімальны спажывецкі бюджэт сям'і з чатырох чалавек зацвердзілі ў памеры 886,5 тысяч рублёў.

Вось толькі асабліва радавацца з гэтай нагоды суайчыннікам не выпадае, бо ўсе цудоўна ведаюць, што іх чакае пры паходзе ў магазін. У айчынныя крамы, праўда, ранейшы асартымент тавараў вярнуўся на паліцы, істотна вырас, але ж цэны на ўсё сталі касмічныя і большасць з нас цяпер працуе фактычна на тое, каб пракарміцца. Да прыкладу, з 1 студзеня 2012 года тыя ж яйкі па рэгуліруемых цэнах сталі каштаваць за дзясятак штук белыя больш 10 тысяч, каляровыя яйкі – 11180 рублёў і гэта яшчэ без упакоўкі.

Не радуе такое павышэнне заробкаў таму, што наша эканоміка стала гіперінфляцыйнай. І ў зацверджаных Указам № 590 асноўных параметрах прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2012 (што пэўным чынам гэта пацвярджае) запісана, што сёлета рэальныя даходы насельніцтва вырастуць нязначна, на 3-3,5 %. Застаецца толькі спадзявацца, каб яно так і выйшла і не было зніжэння пакачыкаў жыццёвага ўзроўню. Што сітуацыя няпростая і ўсім трэба будзе жыць эканомна і нават зацягнуць паясы, пацвярджаюць і іншыя лічбы з гэтага нарматыўнага дакумента.

Яшчэ летась у параметрах прагноза было болей колькасных і якасных паказчыкаў, у прыватнасці абавязацельстваў дзяржавы па ўзвядзенню жылля. На 2012 год ва ўказе няма паказчыкаў па ўводу квадратных метраў жылля і колькасці занятых у эканоміцы (няўжо будуць значныя скарачэнні?). Ужо відавочна, што будзе значнае скарачэнне жыллёвага будаўніцтва і гэта значна меней праграмы пяцігодкі. Дзясяткі тысяч самых кваліфікаваных беларускіх будаўнікоў звольніліся і паехалі працаваць на будоўлі ў асноўным у Расію.

Выдзеленых з дзяржбюджэту сродкаў на ільготнае крэдытаванне ўзвядзення жылля хопіць на пабудову яго прыкладна ў аб'ёме 2,3 млн. кв. метраў. Многім прыйдзецца адмовіцца ад мары неўзабаве абзавесціся ўласнай кватэрай, бо нават з заробкамі пад 4 млн. рублёў у сталічных самых высокааплатных рабочых яны не ў сілах будуць аплаціць банкаўскія крэдыты па 45-55 % гадавых. Новы Жыллёвы Кодэкс РБ распрацоўваўся 11 апошніх гадоў, аднак толькі двойчы прымаўся ў першым чытанні, цяпер перанесены ў план будучай веснавой сесіі парламента.

У гэтым годзе запланаваны далейшы рост цэн на ўзроўні да 22 % у канцы снежня. Цікава, што ў параметрах прагноза не ўстаноўлена ніякіх паказчыкаў курсу беларускага рубля і нават карыдор магчымых змяненняў кошыка валют. Мінулы ж год быў вельмі складаным для айчыннай эканомікі і наш беларускі бізнес згубіў ад 60 да 80 % сваіх актываў ва ўмовах рэзкага аслаблення курсу нацвалюты. Можна толькі нам марыць і пра спакойнае, заможнае жыццё пры запланаванай інфляцыі і захаванні курсу беларускага рубля ў межах 9-10 тыс. рублёў/долар. А таксама было б добра ў наступіўшым новым годзе большасці з беларусаў не хваляваца, што не ўдасца дажыць да новага заробку альбо пенсіі.

## Дзень за днём

**З-за крызісу ўжо больш трэці беларускіх сем'яў вымушаны жыць на 100 долараў у месяц, дзяржаву па ўзроўню жыцця нельга лічыць больш "моцнай і квітнеючай", як раней абвяшчала прапаганда. Сур'ёзна ўскладнілі ў краіне ільготнае крэдытаванне будаўніцтва жылля. Нацбанк аб'явіў, што новая купюра вартасцю 200 тысяч рублёў з'явіцца толькі ў сакавіку. Амаль 200 тысяч расіян адпачылі на навагодніх і калядных святах у Беларусі, дзе раскупілі амаль усе месцы ў санаторыях і на базах адпачынку. Надзвычай цёплы снежань дапамог ураду сэканоміць на ацяпленні больш 16 млн. $.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія**. Старшыня Рады ЕС Херман ван Рампей пацвердзіў, што далейшае збліжэнне Украіны з Еўрасаюзам залежыць ад сітуацыі са справай экс-прэм'ера Юліі Цімашэнка.

**ЗША.** Палата прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША заклікала Міжнародную федэрацыю хакея пазбавіць Беларусь права правядзення чэмпіянату свету-2014 з-за наяўнасці палітвязняў.

**Англія**. Апытанне агенства "Reuter" вядучых эканамістаў Еўропы засведчыла, што ў 2012 годзе крызіс узмацніцца і зона еўра спыніць сваё існаванне ў цяперашнім выглядзе.

**Венесуэла.** У сталіцы краіны Каракасе быў выкрадзены ўзброенымі злачынцамі беларускі консул Аляксандр Шкатулаў, пасля дачы выкупу бандыты яго адпусцілі позна ноччу.

**Казахстан.** Прэзідэнт Н. Назарбаеў выканаў патрабаванні пратэстуючых і адправіў у адстаўку свайго зяця, кіраўніка Мангістаўскай вобласці, аднавіў на працы звольненых.

**Бразілія.** Краіна з насельніцтвам 200 млн. чалавек абагнала Англію і заняла 6 месца сярод эканомік свету, Расія паднялася на 9 месца, замкнула дзясятку Індыя, яўны лідар – ЗША.

**Турцыя.** Анкара адклікала з Парыжа свайго пасла пасля прыняцця парламентам Францыі закона аб крымінальнай адказнасці за адмаўленне факту генацыду туркамі армян у 1915 г.

**Малдова**. Яшчэ адзін фаварыт Крамля А. Камінскі прайграў з трэскам 2-гі тур выбараў прэзідэнта непрызнанай Прыднястроўскай рэспублікі, пераможцам стаў Яўген Шаўчук.

**Куба.** З 1 студзеня Рауль Кастра дазволіў кубінцам адкрываць прыватны бізнес і свае дробныя прадпрыемствы, самастойна ўстанаўліваць цэны на паслугі і рэжым працы.

**Польшча.** Вядучыя гісторыкі краіны заявілі, што НКУС забіў на тэрыторыі БССР у Курапатах і іншых месцах 3782 палякаў, але кіраўніцтва Беларусі адмаўляе гэта.

**Францыя.** Колькасць беспрацоўных французаў дасягнула максімуму за апошнія 12 гадоў – 9,3 % альбо 2,85 млн. чалавек,што змяншае шанцы М. Сарказі захаваць сваю пасаду.

**Ліхтэнштэйн.** Маленькае, але багатае княства стала 26-й краінай-удзельніцай пагаднення аб бязвізавым перамяшчэнні дзяржаўных граніц у Еўропе ў саюзе краін Шэнгенскай зоны.

**Інданезія.** Праз 7 гадоў пасля жудаснага цунамі змагла цудам адшукаць сваіх бацькоў дзяўчынка, якую родныя лічылі загінуўшай, але маленькую выратавала іншая жанчына.

**Егіпет.** Толькі за навагоднія і калядныя святы эканоміка краіны страціла 1 млрд. USD з-за страты папулярнасці егіпецкіх курортаў, летась – 4 млрд., раней было 13 млрд. даходаў.

**Нарвегія.** Самы моцны за апошнія 30 гадоў ураган і шторм пакінуў без электрычнасці больш 100 тысяч чалавек, стыхія нарабіла шмат бедаў і ў суседніх Швецыі і Фінляндыі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Уступленне Беларусі ў СГА ў многім будзе залежыць, як заявіў кіраўнік аддзела пасольства Польшчы ў РБ Веслаў Пакладэк, ад пазіцыі Сусветнай арганізацыі працы.

**Барысаў.** На мясцовым ваенным палігоне прайшлі паспяхова палётныя тэсты айчыннага беспілотнага лятальнага апарата "Бусел", іх вытворчасць пачынае НАН Беларусі.

**Мінск.** Дадатковыя аплочваемыя выхадныя з 2 па 9 студзеня прадаставілі людзям МАЗ, завод калёсных цягачоў, меней вольных дзён было на МТЗ, іншых заводах сталіцы.

**Салігорск.** ААТ "Беларуськалій" запусціў другую чаргу Чырвонаслабадскага рудніка і стаў асноўным донарам фонду нацыянальнага развіцця РБ з узносам 700 млрд. рублёў.

**Горкі.** Беларускі прэм'ер М. Мясніковіч запатрабаваў рэзка паскорыць тэмпы ўзвядзення асноўных аб'ектаў да фестывалю "Дажынкі-2012", бо работы вядуцца вельмі марудна.

**Мінск.** Цэнтрвыбаркамам Беларусі зноў кіруе Л. Ярмошына (на пасадзе ўжо 15 гадоў), яна спрагназавала вельмі складаныя парламенцкія выбары ў верасні 2012 года.

**Слонім.** Падчас круглага стала ў райвыканкаме праваслаўны святар айцец Аляксандр прапанаваў уладам прыбраць і пераплавіць помнікі катаў рэлігіі Леніна і Дзяржынскага.

**Мінск.** Польскі пасол Лешак Шарэпка паведаміў, што дыпламатам краін ЕС адмовілі сустрэцца з палітвязнямі, хоць у 2008 годзе былі сустрэчы з экс-кандыдатам А. Казуліным.

**Гродна.** Больш 100 тысяч уязных віз выдала тут за 12 месяцаў консульства Польшчы, што ў 2 разы болей, чым у 2010 годзе, але РБ не ідзе на пагадненне аб прыгранічным руху.

**Стаўбцы.** З-за ўраганнага ветру абрушылася воданапорная вежа вышынёй 12 метраў у вёсцы Ператокі, зламала суседні хлеў з плотам і змыла дровы мясцовага дачніка.

**Іўе.** На лясной сядзібе ў вёсцы Залейкі з'явіўся і стаў прымаць гасцей яшчэ адзін родзіч Дзеда Мароза Зімнік Налібоцкі з бабай Завірухай, побач хатка бабы Ягі, хованка Лесуна.

**Жодзіна.** Пад узмоцненай аховай з мясцовага СІЗА прывезлі ў морг асуджанага на 4,5 гады праваабаронцу Алеся Бяляцкага і дазволілі 10 хвілін развітацца з памерлым бацькам.

**Брэст.** Падчас рамонтных работ і працы экскаватара раніцай абвалілася сцяна будынка па вуліцы Савецкай, у выніку інцыдэнту загінула пешаход – пажылая жанчына.

**Калінкавічы.** З дапамогай службовага сабакі міліцыя затрымала 23-гадовага раней судзімага хлопца, які напаў на 3 жанчын, адна з іх адбілася і забрала ў рабаўніка нож.

**Барысаў.** Бюджэт Мінскай вобласці выдзеліў 170 млрд. рублёў на ўзвядзенне новага стадыёна еўрапейскага ўзроўню для футбольнага клуба БАТЭ, камандзе – 1 мільярд.

# Льготнае крэдытаванне застаецца для выбраных, пад 9% гадавых




■ ЯМ

**Ільготнае крэдытаванне застаецца для выбраных, пад 9% гадавых. Маладыя сем'і з двума дзецьмі могуць атрымаць грошы пад 22,5%, для астатніх застаюцца прапановы па 30–49% гадавых.**

Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ № 13 «Аб некаторых пытаннях прадастаўлення грамадзянам дзяржаўнай падтрымкі пры будаўніцтве (рэканструкцыі) ці набыцці жылых памяшканняў». Ён вызначае новыя правілы ільготнага крэдытавання.

Як і чакалася, спіс тых, хто мае права на падтрымку, скарочаны. У яго ўваходзяць:

— шматдзетныя сем'і,

— жыльцы памяшканняў, непрыдатных да жылля

— людзі, якія пражываюць у інтэрнатах не менш за дзесяць гадоў

— грамадзяне, якія маюць дзяцей-інвалідаў, а таксама інваліды з дзяцінства I і II групы

— чарнобыльцы

— тыя, хто маюць права на пазачарговае атрыманне жылых памяшканняў сацыяльнага карыстання дзяржаўнага жыллёвага фонду.

Яны могуць атрымаць крэдыт пад 20% ад стаўкі рэфінансавання (зараз — 9%).

Маладыя сем'і, якія маюць двух дзяцей, маюць права атрымаць крэдыт пад 50% ад стаўкі рэфінансавання (зараз — 22,5%)

Пэўныя ільготы атрымаюць і жыхары населеных пунктаў, дзе пражывае менш за 20 тысяч чалавек. Яны могуць атрымаць крэдыт пад 10% ад стаўкі рэфінансавання (зараз — 4,5%)

Норма забяспечанасці жыллём у Мінску зменшана да 15 квадратных метраў на чалавека.

Ваеннаслужачыя змогуць будавацца на ранейшых умовах.

Разнастайныя ільготы будуць мець ветэраны баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў, таленавітая моладзь, суддзі і пракурорскія работнікі.

Старыя крэдытныя лініі вырашана не адмяняць, але і павялічваць іх не ўдасца.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На базе вядучых айчынных вытворцаў абутку – "Марко" і "Белвест" запланавалі стварыць 2 нацыянальныя холдынгі з падключэннем абутковых фабрык Ліды, Смалявіч.

**Орша.** Льнокамбінат заклаў усю сваю маёмасць, каб атрымаць крэдыт ад "БПС-Ашчадбанка", раней Еўразійскі банк развіцця адмовіў яму ў атрыманні 85млн. еўра.

**Лепель**. Расійская фірма за 360 тысяч $ поўнасцю выкупіла "Лепельпрамшвеймэблю" разам з яе 2 млрд. рублёў даўгоў, паабяцала захаваць вытворчасць і 100 рабочых месц.

**Полацк.** На спецскладзе доўгатэрміновага захоўвання "Дзёрнавічы-1" перазахавалі яшчэ больш 100 тон непрыгодных і небяспечных для экалогіі пестыцыдаў з 13 раёнаў вобласці.

**Браслаў.** На пункце пропуску "Урбаны" затрымалі 40-гадовага жыхара Лепеля, які перавозіў без дакументаў 4800 пар будаўнічых рукавіц і 100 ахоўных акуляраў.

**Віцебск.** У родным горадзе пабываў з кароткачасовым водпускам экс-кіраўнік перадвыбарнага штаба Павел Северынец, ён асуджаны на 3 гады абмежавання волі.

**Орша.** Упершыню ў Беларусі раён памяняўся тэрыторыяй са Шклоўскім раёнам Магілёўскай вобласці, перадаў суседзям 143 гектары нязручных для карыстання зямель.

**Сураж.** Мясцовы лясгас запусціў у эксплуатацыю новы цэх па вытворчасці паліўных брыкетаў з лясных адходаў на абсталяванні прадпрыемства "Агратэхсервіс" з Гомеля.

**Ушачы.** У вёсцы Цялічына бомж не змог патушыць пажар у самавольна занятай пустой хаце і ад адчаю ледзь не павесіўся, мужчыну выратавалі, але дом згарэў поўнасцю.

**Глыбокае.** Райцэнтр, дзе восенню пройдзе Дзень беларускага пісьменства, паабяцаў наведаць А. Лукашэнка.

**Полацк.** Міліцыя раскрыла канал паставак псіхатропных рэчываў у РБ з Еўропы, яго арганізацыяй і дастаўкамі таблетак экстазі займаўся малады жыхар горада над Дзвіной.

**Віцебск.** Міліцыя распачала крымінальную справу супраць галоўнага інжынера будупраўлення тэлезавода "Віцязь" па фактах злоўжывання ім службовым становішчам.

**Паставы.** Паблізу райцэнтра ў аграгарадку Юнькі злодзеі ўкралі навагоднюю ёлку ля сельсавета, лясную прыгажуню потым знайшлі, а гірлянды коштам 1 млн. рублёў – не.

**Докшыцы.** Услед за буйнымі гарадамі ў райцэнтры адбыўся парад Дзедаў Марозаў і Снягурак на галоўнай плошчы, дзе прайшла масавая танцавальна-забаўляльная праграма.

**Орша.** Тэрыторыя раёна стала рэкардсменкай у Беларусі, дзе перад навагоднімі святамі таўшчыня снежнага покрыва дасягнула 11 см, у заходніх раёнах вобласці снегу не было.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

# Наша слова
# Рэзгіні

Адзін пастаўскі краязнаўца Міхал Гіль пераконваў аднойчы аўтара гэтых радкоў, што слова “рэзгіні” літоўскага паходжання, не беларускае…

Не здзіўлюся, калі не тое што палова Глыбокага, а нават 99,99 адсоткаў жыхароў не чула такога слова, а значыць і сэнсу яго не ведае. Што такое рэзгіні? Гэта такая прылада ці прыстасаванне для пераносу свежаскошанай травы, сена ці саломы. Дзве дугі (з арэшніка ці з іншай пароды гнуткага ствала дрэва), якія злучаныя між сабой сеткай.

Памятаю, у дзяцінстве, мой бацька гадаваў трусоў. А іх карміць трэба. Бярэ касу і рэзгіні ды ідзе на луг. Накасіў, наклаў у рэзгіні травы, сашчаміў дугі і – панёс на плячах дадому.

Гэтае слова цяпер забываецца, бо знікае патрэбнасць у рэзгінях. Іх цяпер замяняе звычайны мех, які застаецца пасля пакупкі камбікорму, бульбы, зерня…

У 2005 годзе мы зладзілі цікавую вандроўку на Псуеўшчыну. Нас зацікавіў подзвіг камандзіра польскай заставы Каменны Воз Паўла Палчынскага, які на досвідку 17 верасня 1939 года, узяўшы кулямёт, прыняў няроўны бой з Чырвонай Арміяй, паклаўшы пад шэсць дзясяткаў жаўнераў праціўніка. Нашым правадніком быў Віктар Жаваранак, жыхар вёскі Хралы. У гэтай жа вёсцы мы завіталі да аднаго старажыла, які з дзяцінства памятаў П. Палчынскага. Камандзір польскай заставы прыязджаў на матацыкле ў вёску Хралы лавіць рыбу на возеры Івесь, а яны – тады дзеці – капалі яму чарвякоў … Стаім на двары, гутарым. Бачу: у гэтага спадара на сцяне хлява аж трое рэзгіняў вісіць!

Рэзгіні!!! Цікавае слова! Гучыць неяк незвычайна. Што гэта? Беларуская Атлантыда? Слова, якое засталося з тых часоў, калі ўсе народы Еўропы размаўлялі на дыялектах адной мовы? Ну, напрыклад, ланцуг, ліхтар – ён і ў немцаў – ліхтар і ланцуг. Скрыня? І ў шведаў – скрыня! Вавёрка, дойлід? У латышоў амаль тое – вавэрытэ, дальрадэ.

Доўгія гады, дзесьці ў глыбіні свядомасці, захоўвалася гэтае пытанне і пошук адказу на яго. Але, хто шукае, той і знаходзіць…

Тры тыдні таму аўтар гэтых радкоў наведаў Вільню. Завітаў да Алеся Адамковіча, які тут выкладае ва ўніверсітэце і займаецца навуковай працай, а даўней працаваў у Германавічах (Шаркоўшчынскі р-н) у мясцовым музеі.

Сядзіць Алесь за сталом з ноўтбукам, абклаўшыся рознымі слоўнікамі, а на паліцах, у шуфлядах і паўсюль, дзе толькі можна – ксеракопіі дакументаў з віленскіх архіваў.

– Ну, што новага знайшоў, Алесь?– пытаю.

Ён кладзе стосы ксеракопій дакументаў за 1924 год з вуглавымі пячаткамі Таварыства Беларускае Школы. Мама родная! Аказваецца, на тым часе была вялікая кампанія па збору подпісаў ЗА АДКРЫЦЦЁ беларускіх школаў! І іх адкрывалі. Беларускія школы былі не толькі ў Глыбокім, але і ў Жураўнёве, Яблонцы*, Шубніках, Ледніках, Целяшах…

На ксеракопіях: спісы вучняў, бюджэт школаў, распіскі гаспадароў будынкаў, што яны добраахвотна прадстаўляюць ў сваім доме пакой для беларускай школы, заявы настаўнікаў… Гэта была вялікая патрыятычная кампанія па адкрыцці беларускіх школаў! Нават распаўсюджваліся ўлёткі з заклікам “Далоў польскія школы!”

– Гэта ўсё – наш вялікі козыр у спрэчках з мясцовымі “крэсовымі палякамі”, якія сцвярджалі ды сцвярджаюць і сёння, што бацькі беларускіх дзяцей самахоць адмовіліся ад навучання сваіх дзяцей на беларускай мове ды добраахвотна і без прымусу паслалі іх у польскія школы,– кажа Алесь.

– Раз у цябе, Алесь, столькі тлумачальных слоўнікаў, давай спраўдзім некаторыя нашыя дыялектныя словы на адпаведнасць іх у літоўскай мове,– прапаноўе аўтар гэтых радкоў. Напрыклад, вягал.

– А што гэта за слова?

– Ну, ты даеш! Няўжо ў вашым Шаркоўшчынскім раёне мянтуза (па-руску – налим) не клічуць вягалам?

– Не! Ён і ў нас, на рацэ Дзісна, завецца мянтузом!

– Дзіўна! Нават на беларускіх землях Пскоўшчыны, у раёне г. Себежа, яго клічуць вягалам, як і бусла - бацяном.

– Шукаем!– кажа Алесь… Знайшоў! Ёсць у тлумачальным слоўніку літоўскай мовы падобнае слова і з такім жа сэнсам. Толькі напісана, што “этымалогія слова невядомая”. Значыць, з паходжання яно не літоўскае. Чыё? Можа і фіна-ўгорскае…

– Давай, шукай рэзгіні!

– Рэзгіні ёсць!

– А што за тлумачальны слоўнік?

– **“SŁOWNIK ETYMOLOGICZNY JĘZYKA LITEWSKIEGO”** на польскай мове. Каб дабрацца да ісціны – трэба карыстацца не адным слоўнікам, а некалькімі.

***Regzti, rezgū, rezgiaū*** – сплятаць, вязаць (сетку, сеткі). У даўняй прускай мове – ***rezgiū***, паводле слоўніка К.Шырвіда ***aprezgiu*** – сплятаем, звязваем штосьці. Да праіндаеўрапейскай мовы ***resg** – “путаць, сплятаць”, параўнайце з ведыцкім (мова веды) ***rajju*** – “шнур, канат”, лацінскім ***restis*** канат, вяроўка, шнур”. –Дзерывата (лінгвістычны тэрмін) ***rezgele*** паводле слоўніка К.Шырвіда–“пляцёны кошык”, ***rezgines*** жаночага множнага ліку “сплеценая з вяровак, умацаваная на двух драўляных луках (дугах) сетка, якая служыць для пераносу сена і саломы на плячах (той самы выраз у дыялекце жмудскай мовы азначае “лапці, якія сплеценыя з лыка”).

Далей чытаць слоўнік ужо не мела сэнсу. Усё і так зразумела...

Дарэчы, слова “резгини” ёсць і ў украінскай мове. Тлумачальны слоўнік дае такі варыянт: украінскае ***резгини*** – “прыстасаванне для пераносу сена”, параўнайце з літоўскім ***rezgines.***

Такога слова як «резгини» у рускай мове няма, і ў прынцыпе і быць не можа! Бо руская нацыя ўзнікла на фіна-ўгорскім субстраце, а фіна-ўгры (фіны, комі, эстонцы, мардва) не з’яўляюцца індаеўрапейскімі народамі. Беларусы ж узніклі на балтцкім субстраце, таму ў нас ёсць шмат падобных слоў з літоўцамі і латышамі.

І ўсё ж, слова “рэзгіні” беларускае ці літоўскае? Так проста і не адкажаш! Ну, нездарма ж, мы вышэй выводзілі паходжанне гэтага слова з праіндаеўрапейскай, з прускай, з ведыцкай, з лацінскай, з украінскай моваў… Гэтае слова – нашае! І ўжывалі яго ў сваім лексіконе жыхары сённяшняй Глыбоччыны не адну тысячу гадоў.

Між іншым, шмат хто сёння займаецца стварэннем прыватных (хатніх) музеяў сялянскага побыту і калі ў вашай экспазіцыі няма рэзгіняў, то іх можна зрабіць і самому, бо яны дажылі да нашага часу і хтосьці імі яшчэ карыстаецца, нехта яшчэ й вырабляе.

* вёска Яблонка была па левы бок дарогі, што ідзе на Докшыцы. На правы бок дарогі – Варганы.



Рэзгіні. Схема.



У вёсцы Хралы. На сцяне хлява вісіць трое рэзгіняў. *Фота Ул. Скрабатуна, 2005 г.*




## Навінкі з кніжнай паліцы

# «Забытая Беларусь»

Деружинский, В. **Забытая Беларусь.** — Минск : Харвест, 2011. — 496 с. : ил. — (Неизвестная история). — ISBN 978-985-18-0455-5.




Мінскае выдавецтва «Харвест» выпусціла кнігу Вадзіма Дзеружынскага «Забытая Беларусь». Гэта працяг кнігі «Тайны белорусской истории», якая выйшла чатырма выданнямі ў 2010-2011 гадах. У ёй выкрываюцца шматлікія выдумкі, міфы і памылкі аб беларускім мінулым, якія доўгі час укаранялі афіцыйныя ўстановы, гісторыкі і публіцысты царскай імперыі і СССР. Нямала месца ў кнізе нададзена «белым плямам» у гісторыі Беларусі – таму, што скрывалася ў савецкія часы па ідэялагічных меркаваннях.

Ці з'яўляюцца беларусы балтамі? Чаму забытая дзяржава Сярэдняя Літва? Ці быў Галадамор у БССР? Хто забіў Янку Купалу? Што галоўнае скрываюць да сённяшніх часоў аб Чарнобыльскай катастрофе? Аб гэтым і шмат чым іншым апавядаецца ў кнізе, якая разлічаная на шырокае кола чытачоў.

У кнізе тры часткі: «Сярод міфаў і памылак», «У пошуках Айчыны», «Забаронена ведаць». Больш за сто картаў і ілюстрацый, 500 старонак. Шукайце ў кнігарнях Беларусі і нашага горада.

# Глыбокае стане «другой Венецыяй»?

■ Уладзімір Скрабатун

Стварыць водную прастору, па якой можна будзе вольна вандраваць на лодках з возера Кагальнага ў возера Вялікае – класная задума! Яна стане яшчэ больш класнай, калі можна будзе даплыць і да возера Падлазнага, а ўжо каб адтуль патрапіць у возера Мушкат - было б мяжой фантазій[1].

Ідэя пераўтварыць Глыбокае ў другую Венецыю зыходзіць яшчэ ці не з часоў Напалеона Банапарта, які ў часе паходу на Маскву заначаваў тут на некалькі дзён. Пасля Вільні – праз 160 вёрстаў пыльнай дарогі, праз пушчанскія лясы, гаці, ды невялікія вёскі,– папаіўшы коняў у Зарубіне на рацэ Аржаніца, імператар Францыі прыбыў у Глыбокае. Глыбокае падалося Банапарту агменем цывізацыі. Тры велічных храмы ў стылі "віленскага барока"!

Стоячы на фоне беразвецкага базыльянскага манастыра ў атачэнні мясцовай шляхты, Напалеон, нібыта, сказаў:

**"Калі б гэтае месца належала мне, я загадаў бы наладзіць адсюль суднаходныя зносіны з Дзвіной, і такім чынам з гэтага нязначнага цяпер месца ўтварыў бы адзін з прыгажэйшых і выгаднейшых гарадоў Еўропы".**

*(Вестник императорского Русского Географического общества на 1851 год, часть I, книга 1, стр. 9-13).*

Так, калі мы хочам развіваць турызм, праводзіць розныя фестывалі, то трэба гасцям горада прапанаваць і нейкі адпачынак, а не толькі паказваць храмы. А што прапанаваць? Водную вандроўку на невялікім параходзіку з возера Кагальнае ў возера Падлазнае! Чаму б і не! Канцовы пункт вандроўкі – экскурсія ў адрэстаўраваны Беразвецкі манастыр.

На востраве возера Вялікае трэба пабудаваць прыгожы храм (я не вызначаю пакуль які: каталіцкі ці праваслаўны). Як на востраў завезці будаўнічы матэрыял? Ёсць жа інжынерныя войскі, ну, няхай пантанёры і трэніруюцца ў навядзенні мастоў!Нехта скажа, што гэта трызненні аўтара… Не спяшайцеся! Мой сусед, в.п. Яўстафій Жук, некалі апавядаў, што ў часы існавання праваслаўнага Беразвецкага манастыра (1910-ыя гг), на востраве хацелі пабудаваць драўляную царкву. І яе пабудавалі б, але пробы грунта паказалі – падмурак не вытрымае. Але ж цяпер можна й палі[2] забіць пад падмуркі!



Хацелася б, каб сапраўды глыбоцкія ўлады не збочылі, а давялі ідэю да рэалізацыі. А для гэтага спатрэбіцца і не адзін год, можа і пару дзясяткаў гадоў. Ну, напрыклад, некалі паўстане пытанне рамонту (рэканструкцыі) мастоў праз Беразвіцу. Іх два. То можа трэба абачліва, на перспектыву, заказаць праекты адпаведных мастоў, каб пад імі маглі праплываць і маторныя лодкі?

У 1967 годзе быў распрацаваны перспектыўны генплан развіцця г. Глыбокае. Паводле яго ніякай забудовы на берагах азёраў Кагальнае і Вялікае не павінна было быць. Толькі паркавая зона! Аднак, чамусьці, у 1960-ыя гг, у бытнасць мэрам Глыбокага сп-ні Карэпавай, насуперак зацверджанаму генплану, у раёне маста па вул. Вольнай быў забудаваны бераг ракі Беразвіцы. Цяпер, амаль штовесну, гэты ўчастак прыватнай забудовы падтапляе паводка. Дзіўна! У нас па закону бліжэй за 30 метраў ад возера нельга паркаваць аўтамабіль. Аштрафуюць! А тут хлявы, прыбіральні, гаражы, гароды, дамы стаяць ля самай вады! Вясной ўсе гэтыя нечыстоты трапляюць у возера. І што з гэтым рабіць? Знаходжанне гэтае забудовы ў дадзеным месцы – грубае парушэнне прыродаахоўных законаў! А законы мы павінны выконваць! Трэба людзям коштам дзяржавы прадставіць новае жыллё! У Глыбоцкіх уладаў ёсць казыр прасіць фінансавання з дзяржбюджэту на гэтае мерапрыемства, калі не сёння дык у перспектыве. Тады мы атрымаем магчымасць пашырыць даўжыню возера Вялікае аж да самай вуліцы (да маста), стварыўшы ўздоўж яе прыгожую набярэжную.

Глыбокае – «другая Венецыя»? Ёсць што абмяркоўваць і ёсць аб чым спрачацца!

**Тлумачэнні:**
[1] У вельмі даўнія часы азёры Бяглец, Кагальнае, Вялікае, Падлазнае і Мушкат былі адным вялікім возерам.
[2] Сваи – па-руску.

## Вуліца Еўфрасінні Полацкай з'явіцца ў Віцебску

**Вуліца Еўфрасінні Полацкай можа з'явіцца ў Віцебску ўжо хуткім часам, паведаміў карэспандэнту БелТА начальнік аддзела архітэктуры і горадабудаўніцтва Віцебскага гарвыканкама, галоўны архітэктар, старшыня гарадской тапанімічнай камісіі Віталь Дубік.**

У год святкавання 1150-годдзя Полацка ў абласным цэнтры вырашаецца пытанне пра пераназванне адной з вуліц у Чыгуначным раёне ў гонар вялебнай Еўфрасінні – асветніцы, адной з найвялікіх жанчын сярэднявечнай Еўропы, якая заснавала ў сваім родным горадзе жаночую абіцель – Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр, што існуе і дагэтуль. Па словах Віталя Дубіка, рыхтуюцца прапановы, якія затым будуць вынесеныя на грамадскае абмеркаванне. "Пытанне пераназвання адной з вуліц у паўночна-заходняй частцы горада, якая выходзіць на полацкі кірунак, актуальнае і будзе вырашанае хуткім часам", – дадаў ён.

У Віцебску больш 500 вуліц, завулкаў, праспектаў і плошчаў. Адны носяць імёны герояў Вялікай Айчыннай вайны: Гастэла, Заслонава, Чарняхоўскага, іншыя–дзеячаўрэвалюцыі: Валадарскага, Калініна, вядомых гістарычных персанажаў: Разіна, Пугачова. Нямала вуліц названа ў гонар пісьменнікаў і паэтаў: Пушкіна, Гогаля, Караткевіча, Петруся Броўкі. Некаторыя вуліцы



носяць рамантычныя назвы накшталт Кляновай, Кветкавай ці Фруктовай, ёсць вуліцы з геалагічным падтэкстам: Вапнавая, Пясочная, Тарфяная і нават Алмазная. Аднак пры ўсёй тапанімічнай разнастайнасці ў абласным цэнтры ці ледзь набярэцца з некалькі дзясяткаў вуліц у гонар знакамітых землякоў: ёсць вуліца Францыска Скарыны, не так даўно з'явілася вуліца Шагала.

*Дыяна Курыла - БелТА*

## Урачыстасці з нагоды 1150-годдзя Полацка пройдуць з 25 траўня па 5 чэрвеня

**Урачыстасці з нагоды 1150-годдзя Полацка стартуюць увечары 25 траўня і працягнуцца па 5 чэрвеня, паведамілі карэспандэнту БелТА ў Полацкім гарвыканкаме.**

Свята абяцае стаць яркім і запамінальным. Над сцэнарам працуе рэжысёрска-пастановачная група, у склад якой увайшлі вядомыя спецыялісты ў сферы культуры. Вызначана канцэпцыя імпрэзы, якую можна вызначыць трыма тэзамі: Полацк – калыска беларускай дзяржаўнасці, Полацк – духоўна-асветніцкі і культурны цэнтр, Полацк - сучасны еўрапейскі горад.

Мяркуецца, што на працягу святочных тыдняў адбудуцца фэст сярэднявечнай культуры «Рубон» і міжнародная навукова-практычная канферэнцыя на базе Полацкага дзяржуніверсітэта, інтэрактыўны фэст музейных калекцый. Палачан і гасцей горада пацешыць міжнародны фэст «Шэдэўры опернага мастацтва ў сцен старажытнай Сафіі». Апроч гэтага, горад-юбіляр пакажа свой эканамічны патэнцыял, пазнаёміць гасцей з дасягненнямі ў спорце, мастацтве, распавядзе пра сваю моладзь. На свята прыедуць дэлегацыі гарадоў-пабрацімаў Полацка. Апроч афіцыйных асобаў у іх саставе будуць творчыя калектывы, народныя майстры і ўмельцы, якія прадэманструюць сваё майстэрства ў традыцыйным кірмашы рамёстваў.

Полацк – горад багатых праваслаўных традыцый. У юбілейныя дні тут плануецца правесці міжнародную праваслаўную канферэнцыю з удзелам прадстаўнікоў гарадоў трох Святых Соф'яў – Ноўгарада, Кіева і Полацка, Хрэсны ход і сумеснае набажэнства царкоўных іерархаў, міжнародныя фэсты званароў і праваслаўнай творчасці.

Юбілейны горад прыгатуе ўдзельнікам урачыстасцяў нямала прыемных падарункаў. Сярод іх – эксклюзіўны святочны сертыфікат пра наведванне геаграфічнага цэнтра Еўропы (як вядома, геаграфічны цэнтр Еўропы знаходзіцца менавіта ў Полацку – Заўв. БелТА), над эскізам якога ўжо працуюць мясцовыя дызайнеры. Пачалася падрыхтоўка турыстычных маршрутаў, якія дазволяць пазнаёміцца з багатай гістарычнай і культурнай спадчынай старажытнага горада.

Як паведамлялася, ЮНЭСКА ўключыла 1150-годдзе Полацка ў каляндар памятных дат 2012-2013 гадоў. У штаб-кватэры гэтай міжнароднай арганізацыі ў Парыжы ў кастрычніку 2012 года пройдзе выстава. У наш час пачалася падрыхтоўка да экспазіцыі, у якую будуць уключаны фатаграфіі, якія распавядаюць пра мінулы і цяперашні Полацк. Таксама пры фінансавай падтрымцы ЮНЭСКА ў Полацку пройдзе навукова-практычная міжнародная канферэнцыя «Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі».

Полацк мае багатую і слаўную гісторыю. Адзін з найстаражытных гарадоў Усходняй Еўропы ўпершыню згадваецца ў «Аповесці мінулых часоў» за датай 862 год. Выгоднае геаграфічнае становішча «на шляху з варат у грэкі» спрыяла таму, што Полацак стаў адным са значных гандлёвых і культурных цэнтраў сярэднявечнай Еўропы. Горад даў свету Еўфрасінню Полацкую, Францішка Скарыну, Сімяона Полацкага. Адгэтуль родам герой абароны Порт-Артура генерал Раман Кандрацэнка, заснавальнік беларускага кіно Юрый Тарыч. У Полацку знаходзіцца каля 150 гістарычных каштоўнасцяў, сярод якіх унікальныя помнікі старажытнай архітэктуры Сафійскі сабор і Спаса-Праабражэнская царква.

*Крыніца: БелТА*

**Анонс**

## Мястэчка Глыбокае

**Амаль сенсацыйны матэрыял з далёкага замежжа даслаў у «Вольнае Глыбокае» наш зямляк Аляксандр Івашчонак, бакалаўр гісторыі. Гэта матэрыял не аб горадзе Глыбокае, які ляжаў па левы бок ракі Беразвіцы, а аб мястэчку Глыбокае, якое было насупраць,– па правы бок ракі Беразвіцы.**

**ЦЫТАТА**:

Менавіта кляштар прыцягваў, вабіў ў Глыбокае падарожнікаў, пілігрымаў ці купцоў, дзякуючы якім працавалі корчмы (заездныя дамы) і рынак. Без Кармэлітаў сёньняшняе Глыбокае, не было б Глыбокім, каб не манахі, якія ператварылі местачковую глухмень часоў Язэпа Корсака, у квітнеючую "Венецыю" – мястэчка Глыбокае сярод азёраў, рэк і сажалак, затопленае садамі і архітэктурай барока.

**Чытайце неўзабаве на старонках нашай газеты.**

■ С.П. Пятух,
*начальнік крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі.*

# Мерапрыемства «Нагляд» будзе праведзена з 9 па 16 студзеня 2012 года

**Глыбоцкім РАУС з зацікаўленымі ведамствамі раёна праводзіцца пастаянная работа па прафілактыцы здзяйснення злачынстваў і адміністрацыйных правапарушэнняў, у тым ліку па папярэджанні рэцыдыўнай злачыннасці, п'янства сярод насельніцтва.**

Аналіз стану законнасці і правапарадку на тэрыторыі раёна сведчыць, што праваахоўнымі органамі праведзеная значная работа па ўмацаванні законнасці, абароне канстытуцыйных правоў грамадзян, грамадскіх і дзяржаўных інтарэсаў.

З мэтай зніжэння ўзроўню рэцыдыўнай злачыннасці супрацоўнікамі РАУС праводзяцца розныя мерапрыемствы прафілактычнага характару, ажыццяўляюцца штомесячныя праверкі раней асуджаных асобаў па месцы жыхарства і работы ўчастковымі інспектарамі міліцыі, укараняюцца новыя формы і метады папярэджання рэцыдыўнай злачыннасці.

Паводле плану асноўных арганізацыйных мерапрыемстваў УУС Віцебскага аблвыканкама з мэтай прафілактыкі рэцыдыўнай злачыннасці, папярэджанню злачынстваў і правапарушэнняў з боку асобаў, якія знаходзяцца на ўліку ў крымінальна-выканаўчых інспекцыях вобласці, **з 9 па 16 студзеня 2012 года** на тэрыторыі Глыбоцкага раёна будзе праведзена адмысловае комплекснае мерапрыемства (СКМ) «Нагляд» з удзелам усіх службаў Глыбоцкага РАУС і з прыцягненнем супрацоўнікаў Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь.

Падчас правядзення дадзенага мерапрыемства будуць падвергнуты праверцы ў вячэрні і начны час сутак па месцы жыхарства ўсе асобы, якія знаходзяцца на ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС, такія як асуджаныя, што адбываюць пакаранні па прысудах судоў не звязаных з пазбаўленнем волі, і тых, якія маюць не знятую і не згашаную асуджанасць пасля адбыцця пакарання і вяртання з месцаў пазбаўлення волі.

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Узрасла лічба крымінальна каральных правапарушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства

**Скончыўся 2011 год, можна падвесці вынікі працы і выканання грамадзянамі прыродаахоўнага заканадаўства. Мінулы год быў вельмі напружаны для работнікаў Глыбоцкай міжрайінспекцыі, нягледзячы на зніжэнне колькасці выяўленых парушэнняў, узрасла лічба крымінальна каральных правапарушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства.**

За 2011 год супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі выяўлена 255 правапарушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, 12 матэрыялаў накіравана ў органы ўнутраных спраў, па 10 узбуджаныя крымінальныя справы, вінаватыя панеслі суровае пакаранне, да крымінальнай адказнасці прыцягнута 12 чалавек. Усяго спынена 89 парушэнняў правілаў рыбалоўства, і нягледзячы на значнае зніжэнне колькасць выяўленых фактаў парушэнняў правілаў рыбалоўства, колькасць выяўленых грубых парушэнняў павялічыліся, кожнае трэцяе парушэнне, гэта здабыча рыбы забароненымі прыладамі рыбалоўства, сеткамі, канфіскавана 81 сетка агульнай даўжынёй 4 км., 19 іншых браканьерскіх прылад рыбалоўства, у парушальнікаў канфіскавана 474 кг. незаконна здабытай рыбы. Па 9 выяўленых грубых парушэннях правілаў рыбалоўства ўзбуджаны крымінальныя справы за незаконную здабычу рыбы браканьерскімі прыладамі рыбалоўства. У той жа час у мінулым годзе павялічылася колькасць выяўленых парушэнняў правіл вядзення паляўнічай гаспадаркі – 39, у парушальнікаў канфіскавана 150 кг. мяса дзічыны, 14 адзінак агнястрэльнай зброі, у тым ліку 8 адзінак незарэгістраванага. Так, 26 лістапада 2011 года каля 1 гадзіны ночы пры правядзенні аператыўных мерапрыемстваў работнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі сумесна з супрацоўнікамі Шаркоўшчынскага РАУС паблізу в. Буды Шаркоўшчынскага раёна затрыманы трое браканьераў, два жыхары г. Мінска і адзін мясцовы жыхар, у якіх канфіскавана 3 паляўнічых стрэльбы, 2 з якіх не зарэгістраваныя і 28 патронаў. Спынена 60 парушэнняў правіл лесакарыстання, па-ранейшаму ў грамадзян нізкай застаецца культура лесараспрацоўкі, пры нарыхтоўцы драўніны насельніцтвам высякаюцца лепшыя дрэвы, пакідаючы кусты, захламленасць, align розная побытавае смецце. У парушальнікаў канфіскавана і вернута ў прыбытак дзяржавы 1830 м.куб. драўніны, прад'яўлены ўрон на суму больш 30 млн. рублёў. Велізарную дапамогу міжрайінспекцыі ў спыненні парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства аказвае насельніцтва. На тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі ад грамадзян паступіла 30 паведамленняў пра парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, па якіх затрымана 44 правапарушальнікі, у тым ліку 3 парушальнікі прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Вынік узаемадзеяння інспекцыі з насельніцтвам – памяншэнне колькасці правапарушэнняў і павелічэнне колькасці рыбы ў вадаёмах і звяроў у лясах.

Яшчэ раз хацелася б падзякаваць грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў барацьбе з парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства. Толькі разам мы зможам навесці парадак на нашых азёрах, рэках і лясах.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 8-02156-2-86-70 «гарачая лінія» кругласутачна, мабільныя: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 347-85-14.

# Упраўленне па грамадзянстве і міграцыі УУС Віцебскага аблвыканкама растлумачыла некаторыя нюансы малога прыгранічнага руху з Латвіяй

**Упраўленне па грамадзянстве і міграцыі УУС Віцебскага аблвыканкама растлумачыла некаторыя нюансы малога прыгранічнага руху з Латвіяй, які пачнецца 1 лютага.**

Жыхары памежных тэрыторый Беларусі і Латвіі будуць наведваць памежныя тэрыторыі без візаў па дазволах на мясцовае прыгранічнае перамяшчэнне. Гэты дакумент будзе выдавацца на падставе спісаў жыхароў памежных тэрыторый: для Беларусі — у генконсульстве ў Даўгаўпілсе; для Латвіі — у консульстве ў Віцебску.



Рыга

Пад дзеянне пагаднення трапляюць жыхары памежных тэрыторый, якія пастаянна пражываюць на іх не менш за год, а таксама жонкі, бацькі, бабулі, дзядулі, непаўналетнія дзеці, непаўналетнія, якіх удачарылі ці ўсынавілі, непаўналетнія дзеці, якія знаходзяцца пад апекай, непаўналетнія ўнукі, непаўналетнія праўнукі, якія вядуць сумесную з імі хатнюю гаспадарку, нават калі яны пражываюць на прыгранічнай тэрыторыі менш за год.

Сярод падстаў для выдачы дазволу: арганізацыя ці ўдзел на рэгулярнай аснове ў культурных, адукацыйных, навуковых і спартыўных мерапрыемствах, якія праводзяцца органамі ўлады і ўстановамі дзяржаў бакоў; валоданне нерухомасцю; наведванне сваякоў; цяжкае захворванне ці смерць сваякоў; наведванне месцаў пахавання сваякоў; атрыманне медыцынскай дапамогі; удзел у мерапрыемствах, звязаных з мясцовымі традыцыямі і правядзеннем рэлігійных абрадаў; ажыццяўленне рэгулярных кантактаў у сферы гаспадарчай дзейнасці без права вядзення працоўнай дзейнасці.

За разгляд хадайніцтва на выдачу дазволу на мясцовае прыгранічнае перамяшчэнне спаганяецца збор у памеры 20 еўра. Ад выплаты збору на аснове ўзаемнасці могуць вызваляцца пенсіянеры, інваліды і дзеці да 18 гадоў.

Жыхарам памежных тэрыторый дазволы на мясцовае прыгранічнае перамяшчэнне будуць выдавацца з тэрмінам дзеяння ад аднаго года да пяці гадоў, але не больш за тэрмін дзеяння сапраўднага праязнога дакумента. Сумарны тэрмін знаходжання на памежнай тэрыторыі дзяржавы іншага боку на працягу тэрміну дзеяння дазволу на мясцовае прыгранічнае перамяшчэнне не можа перавышаць 90 дзён на працягу 6 месяцаў.

Пад дзеянне малога прыгранічнага руху падпадаюць жыхары населеных пунктаў Бігосаўскага, Чапаеўскага, Сар'янскага, Асвейскага, Кахановіцкага, Белькаўшчынскага сельсаветаў Верхнядзвінскага раёна, горада Верхнядзвінска, Павятскага, Перабродскага, Далгінаўскага, Мёрскага, Новапагоцкага, Туркоўскага сельсаветаў Мёрскага раёна, горада Мёры, Друйскага, Плюскага, Слабодкаўскага, Опсаўскага, Далякоўскага, Ахрэмаўскага, Мяжанскага, Цяцеркаўскага, Відзаўскага сельсаветаў Браслаўскага раёна, горада Браслаў, пасёлка Відзы.

***Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.***

## МНС інфармуе
**на 03.01.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 36;
Гібель людзей – 6, з іх 0 дзіцяці;
Урон – 131,8 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 1;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон – 5 000 000 руб.

# Чарговы аматар ласяціны злоўлены ў Верхнядзвінскім раёне

■ **Сяржук Серабро**

21 снежня супрацоўнікі Верхнядзвінскай міжрайінспекцыі выявілі ў паляўнічых угоддзях Верхнядзвінскага лясгаса шкуру і галаву незаконна здабытага лася.

Па гарачых слядах выйшлі на дом 46-гадовага браканьера, дзе знайшлі каля 30 кг мяса лася, а акрамя таго свежыя шкуры баброў.

Як паведамляе прэс-служба Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, наваколльнаму асяроддзю нанесены ўрон ў асоба буйным памеры – 4 мільёны 900 тысяч рублёў. Разглядаецца пытанне пра ўзбуджэнне крымінальнай справы па частцы 4 артыкула 282 КК «Незаконнае паляванне», якая прадугледжвае да 6 гадоў пазбаўлення волі.

